# Тыднёвік Магілёўскі

№ 5 (36)

20.03.98





*25 сакавіка 1918 года Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выбраная 1-ым Усебеларускім Зьездам (Кангрэсам), на падставе дзяржаўнага Акта ад 9 сакавіка гэтага ж года (Другой Устаўнай Граматы да народаў Беларусі) абвесціла Беларускую Народную Рэспубліку НЕЗАЛЕЖНАЙ ВОЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ.*

*Гэта было здзейснена па ўсіх нормах міжнароднага права. Гэта было дэклaравана законным органам беларускай улады. Гэта было шырока падтрымана народам краіны.*

*Гістарычныя падзеі таго найскладанейшага для Эўропы часу не дазволілі аднак Беларусі спраўдзіць сваю шматвяковую мару. Цэлы збег цяжкіх знешніх і ўнутраных акалічнасцяў перашкодзіў святой справе...*

*Але нават у гэтых умовах менш чым за год існавання БНР зрабіла неверагодна шмат для Адраджэння народнага духа і культуры, для міжнароднага аўтарытэту і вядомасці маладой краіны, якая абвесціла і праводзіла ў жыццё дэмакратычныя свабоды і высакародныя сацыяльныя мэты. Чым далей ад таго часу, тым болей гэта відавочна.*

*25 сакавіка – Дзень Волі Беларусаў.*

*Сёння яго не прызнае толькі наша "новая" улада. Прэзыдэнцкая ідэялагічная каманда распачала шырокую прапагандысцкую кампанію супраць 80-годдзя БНР. Ёй усё не падабаецца: і факт абвяшчэння БНР, і юбілейная дата, і намер патрыётаў яе адзначыць, а найбольш, вядома – мэты і ідэі БНР, якія застаюцца для новай Беларусі пaранейшаму актуальнымі. Іх немагчыма абвергнуць, да іх немагчыма не вярнуцца, іх немагчыма ня здзейсніць.*

*Гэта палохае ўладу. Гэта натхняе патрыётаў.*

*СА СВЯТАМ, СЯБРЫ!*



## Мы выйдзем шчыльнымі радамі

Макар КРАЎЦОЎ

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны, родны наш прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор,
дамо адпор.

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі вольны дух,
вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрой сабой народны рух.

На бой за шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго,
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой усе да аднаго,
да аднаго.

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой!

Браты, да шчасьця мы падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ мацней.
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваей,
Жыцьцё Рэспублікі сваей.

*Паэт Макар Краўцоў (М.Касцевіч) – удзельнік І-га Ўсебеларускага кангрэсу (снежань 1917 года). Надрукаваны верш – гімн незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (на музыку Тэраўскага), які й сёння зьяўляецца беларускім дзяржаўным гімнам у колах нашае эміграцыі.*

## І ў Магілёве ёсць свае адчайныя Міроны

Напрыканцы мінулага тыдня некаторыя будынкі ў цэнтры Магілёва былі ўпрыгожаныя надпісамі, для "ликвидации" якіх гаспадарчым службам гораду спатрэбілася напружана працаваць некалькі гадзінаў. Улада праявіла аператыўную нецярпімасць да насценнага роспісу не з-за асаблівых клопатаў пра гарадскую эстэтыку: што толькі іншым часам не прачытаеш на нашых парканах, дамах і ў пад'ездах ... Міма чаго ўсе мы, не выключаючы гарадское начальства і камунальнікаў, звыкла праходзім далей!

Гэтыя ж надпісы зусім не мелі звычайнага для гэтага "жанру" бессэнсоўнага абразлівага характару і мацюговага стылю. Іх грамадская небяспека, на думку ўлады, палягала зусім у іншым – у палітычным характары. Яны поўнасцю разыходзяцца з тым, што дэкляруецца і прапагандуецца рэжымам. Таму людзі могуць іх прачытаць толькі да таго моманту, пакуль заўхозы не запэцкаюць іх свежай фарбай. Няма антырэжымных лёзунгаў – няма й супраціву ў грамадстве, – гэта ўпэўненасць сённяшняй улады.

Мы ж ведаем іншае. Увесь дзень 13 сакавіка званілі чытачы ў рэдакцыю, каб паведаміць пра факт зьяўлення на будынках судоў, абласнога тэлебачання, ля прыпынкаў транспарту на вакзале, 8-м цагляным заводзе, у мікрараёнах Юбілейным і Задняпроўі, на КШТ і іншых людных месцах гэтых самых надпісаў, якія выклікалі нервовасць ўлады і цікавасць у магілёўцаў. Тыя, хто тэлефанаваў, у пераважнай большасці выказвалі сваю падтрымку зместу і пафасу надпісаў, адзначалі немалую мужнасць і адчайную рызыкоўнасць аўтараў небяспечнай вылазкі. Сапраўды, гэтыя захапляючыя адзнакі іх учынку й нам не здаліся перабольшаннем на фоне нядаўняга суда над Лабковічам і Шыдлоўскім, і працяглага ўтрымання за кратамі Кабанчука. Праявіць і засведчыць сваю салідарнасць з маладымі патрыётамі, маральна падтрымаць іх у цяжкі час прыцясненняў і пакутаў – такую мэту, відаць, і ставілі перад сабой магілёўскія "міроны". Яна, па ўсяму, была дасягнута.

Найбольш было заўважана заклікаў наступнага зместу: СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗНЯМ! СВАБОДУ ШЫДЛОЎСКАМУ І КАБАНЧУКУ!

Сярод іншых надпісаў нашыя чытачы адзначалі такія:

МОЛАДЗЬ ЗА БЕЛАРУСЬ! БПСМ – ХАЛУІ ПРЭЗЫДЭНТА! ЛУКАШЭНКУ – У АДСТАЎКУ!

Былі і больш, так бы мовіць, шчырыя надпісы, аднак у газэце мы не станем іх паўтараць. Хаця не ўстрымаемся ад прызнання, што менавіта нашага эстэтычнага пачування гэтыя прамыя словы не засмуцілі...

Аддзел навінаў ТМ

# Вясна БНР яшчэ прыйдзе!



## ЗАЯВА

### Прэзідыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі аб "грамадзянстве" БНР

Рада БНР як носьбіт незалежнасьці Беларусі, угрунтаванай на ўстаўных граматах Рады БНР і акце 25 сакавіка 1918 году, вітае ўсіх прыхільнікаў гэтай ідэі. Людзі, што працуюць на карысьць ужыцьцяўленьня ідэі беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці, маюць аснову ўважаць сябе за грамадзянаў БНР. Такое сымбалічнае грамадзянства набывае маральнае і палітычнае значэньне, бо супрацьдзеіць нацыянальнай здрадзе, якую праводзіць рэжым дыктатара Лукагшэнкі, і спрыяе ўмацоўваньню і пашырэньню руху за ўсталяваньне дэмакратыі ў Беларусі і адраджэньне беларускай культуры ды ўмацаваньне свабоды разьвіцьця культуры нацыянальных меншыняў на Беларусі.

**Нью-Ёрк, 13 сакавіка 1998 г.**



## Алесь АСІПЦОЎ, старшыня згуртаваньня моладзі "Патрыёты Бацькаўшчыны. Рух у Эўропу"

"Народзе Беларускі і ўсе народы Беларускае зямлі!

**Слухай голасу тваіх прадстаўнікоў, што працуюць тваім імянем і дзеля твайго шчасьця..."** Колькі разоў я ўчытваўся ў гэтыя словы, каб зразумець, што рухала тых людзей, якія спрабавалі адрадзіць тое, што, здавалася, было згублена назаўжды. Разам з гэтым я адчуваў, што падзеі васьмідзесяцігадовае даўніны сталіся лягічным працягам нашага культурнага адраджэньня. Я ўчытваўся, каб адчуць энэргетыку тых падзеяў, якія шмат у чым лучныя з падзеямі нашага часу. "... **Аж зразумелі ўрэшце лепшыя сыны Беларусі, што прычына ўсіх няшчасьцяў – гэта палітычны заняпад народу Беларускага, яго няволя ды пакора, і прагалосілі яны на ўсю Беларусь, што павінен устаць Беларускі народ, скінуць путы няволі, ды з парабка гаспадаром зрабіцца на сваёй зямлі..."** Як дарэчы гучаць гэтыя словы й сёньня. Кожны беларус мроіць сваёй Беларусьсю, у кожнага яна свая. Але ж існуе тое, што аб'ядноўвае гэтыя мроі – прага да незалежнасьці ды вольнасьці, бо здольнасьць нацыі да адраджэньня пасьля заняпаду вызначае перадусім сталасьць гэтае нацыі.

Я прапаную вам перанесьціся на 80 год назад. 18 лютага 1918 году, пасьля правалу мірных перамоваў у Берасьці, Нямеччына пачала наступ на ўсход. 20 лютага Выканаўчы камітэт Рады Ўсебеларускага кангрэсу, імкнучыся мірным шляхам захаваць беларускі народ ад нямецкіх мілітарыстых, выдаў Першую Ўстаўную грамату да жыхароў Беларусі ды стварыў першы беларускі ўрад – Народны Сакратарыят, які ачоліў Язэп Варонка. 9 сакавіка Выканаўчы камітэт Рады сваёй Другой Устаўной граматай абвесьціў Беларусь Народнай Рэспублікай. І ўрэшце 25 сакавіка 1918 году Трэцьцяй Устаўной граматай БНР абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай. БНР заявіла аб адзьдзяленьні ад Расеі. Усе гэтыя падзеі адбываліся ва ўмовах нямецкай акупацыі. Зважаючы на тую акалічнасьць, што згодна Берасьцейскай мірнай дамовы, заключанай паміж Нямеччынай ды РСФСР, па якой першая абавязалася не прызнаваць новых дзяржаўных утварэньняў на тэрыторыі былой Расейскай імпэрыі, ні сама Нямеччына, ні Вялікая Брытанія, ні Францыя, ні ЗША не прызналі БНР. Дзеля праўды трэба адзначыць, што дэ юрэ або дэ-факта ў 1919-20 г.г. БНР усё ж прызналі Эстонія, Латвія, Летува, Чэхаславаччына, Балгарыя, Турцыя, Грузыя, Арменія, Фінляндыя, Украіна, Польшча ды ... Нямеччына.

Гэтак было. Натуральна, былі й памылкі, бракавала згоды, рашучасьці ў пэўных момантах. Але ж. Падзеі 1918 году засьведчылі імкненьне Беларускага народу да незалежнасьці ды самастойнасьці. Яны сталі штуршком да росту самасьвядомасьці нацыі. Дзякуючы Чыну 25 сакавіка кіраўніцтва савецкай Расеі не ў стане было ігнараваць нацыянальнае пытаньне на Беларусі.

Пасьля 200-гадовага панаваньня чужынцаў першая спроба адраджэньня беларускае дзяржаўнасьці аказалася няўдалай. Аднак, праіснаваўшы ўсяго каля дзевяці месяцаў, Беларуская Народная Рэспубліка тым ня менш мела вялікае гістарычнае значэньне. Яе абвяшчэньне шмат у чым вызначыла далейшы лёс Беларусі. Адгалоскі тых далёкіх падзеяў сёньня натхняюць беларускіх патрыётаў да змаганьня за свабоду нашае Бацькаўшчыны.

" ... **Чувайце грамадзяне Беларускай Народнай Рэспублікі! Надыходзе гадзіна апошняга суду над народамі. Няхай жа не пагасьне ў сэрцах вашых жывы агонь замілаваньня да волі ды агульна грамадзянскага шчасьця".**

*Ад рэдакцыі.* Цытаваны аўтарам тэкст – "Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі" ад 28.11.1918 г.

## Эмігрую ў БНР

БНР – нязбыўная мара беларусаў XX стагоддзя. 80 гадоў знішчаюць гэтую мару, знішчалі і бальшавікі з энтузіязмам, годным да лепшага прымянення, знішчалі і ляхі, то ўжо больш "па інэрцыі", знішчаюць і свае манкурты, што расселіся сёння па дзяржаўных крэслах. А яна жыве, выціснутая за межы роднага Дома, жыве, утрыманая воляй і верай людзей, што, знаходзячыся далёка ад роднай зямліцы, адчуваюць сувязь з ёй большую, чым тыя, хто застаўся Тут. Людзі паміраюць, адыходзяць у нябыт, але нараджаюцца іншыя. Мара перадаецца ім, маладым і дужым, і яны нясуць яе, высока ўзняўшы, да лепшых часоў, бо вераць: БНР вернецца на родную зямлю.

І сёння ўжо ўсё больш людзей, усё больш беларусаў сталі адчуваць: БНР - не мара, БНР - рэальнасць. Гэтая рэальнасць толькі ўзмацнілася, калі было аб'яўлена, што Рада БНР рыхтуе выдачу пашпартоў аб грамадзянстве БНР.

Калі ў цябе нарадзілася думка, выпрабуй яе высмейваннем, – казаў Канфуцый. Думку аб грамадзянстве БНР не высмяяў хіба толькі гультай. Паёрнічалі над ёй прэзыдэнцкія служкі, рагатнула газэта "ИМЯ", скрывіўся хто-ніхто з "апазыцыі". Але думка не перастала быць прывабнай. Для мяне прынамсі.

Пашпарт грамадзяніна БНР - сімвал больш значны, чым, напрыклад, Хартыя-97. Больш значны хаця б таму, што ён канкрэтны і дакладны. За ім – усё, чаго не хапае Беларусі для нармальнага існавання як сувярэннай дзяржавы, для годнай жыццядзейнасці яе народа. Каб зразумець гэта, дастаткова глянуць у акты ад 9 і 25 сакавіка 1918 года, выдадзеныя Радай БНР. Да гэтага ёсць сэнс імкнуцца. Гэта ёсць сэнс адстойваць. За гэта ёсць сэнс змагацца і нават гінуць. І імкнуцца, і адстойваюць, і змагаюцца, і гінуць. Ужо 80 год. Але не цураюцца. Бо мэта таго вартая.

Чаго мне не хапае ў сучасных "лідэраў нацыі" ці лідэраў шматлікіх партый. Або таго ж "Национального исполнительного комитета". Перш-наперш і больш за ўсё – беларускай ідэі. Прачытайце "Основные задачи НИК" ("Народная воля" за 19 лютага) і вы адчуеце, што аўтары тых радкоў нават неяк саромяцца закранаць нацыянальныя пытанні. Яны не беларускую дзяржаву збіраюцца будаваць, а нейкую дзяржаву "увогуле". Яны стварылі схему дзяржавы, якую можна надзець на Мадагаскар ці Бурундзі, Туву або Македонію... Але вось цяпер ім трапіла пад руку Беларусь і яны рупліва бяруцца нацягваць гэтую, як ім падаецца, "универсальную" схему на змарнелае цела нашай роднай краіны, грэбаючы такой "дробяззю", як яе мовай. Мне становіцца не па сабе, калі я думаю, што гэта ў іх можа атрымацца. І я мушу пагадзіцца з Зянонам Пазьняком: навошта мяняць аднаго маскоўскага халуя на другога!

Асобна хацеў бы выказацца на тэму эміграцыі З. Пазьняка. Пераважная большасць нашага насельніцтва асуджае гэтае "бегства". Асуджае ад нянавісці. Як жа, яму была ўгатаваная на радзіме роля беларускага Ісуса Хрыста – кінулі б за краты, забілі б ці яшчэ як "распялі". І тады стаў бы ён народным героем, нацыянальным сімвалам-ахвярай... А ён такой "пачэснай" ролі не захацеў.

І добра зрабіў, на мой погляд. Бо хопіць народу, як і ўсяму хрысціянскаму чалавецтву, аднаго Хрыста. Каго тая ахвяра не навучыла, не навучыць і другая, і дзесятая. Большасць насельніцтва і па сёння не навучылася ставіцца з павагай і пашанай да людзей, якія нясуць праўду, што бывае горкай і балючай. Успомнім: Хрыста распяў не Понцій Пілат. Хрыста распяў народ. І гэткі ж "народ", як бы ён не зваўся, ізноў гатовы распінаць далей тых, хто нясе праўду, боль, ачышчэнне. "Не ведалі б пра Чарнобыль, і жылі б спакойна... Якая нам розніца, хто там пахаваны ў Курапатах, нікога ж не вернеш... Мы столькі гадоў пражылі разам з Расеяй і з Леніным, навошта зараз чапаць святое..."

Колькі разоў даводзілася гэта чуць у розных варыянтах! Вось гэтага Пазьняку і не даруюць многія: патрыятызму і шчырасці, сумлення і праматы. Сёння ён ізноў не ласціцца да "палітыкі", а змагаецца за родную краіну, кіруючы Народным Фронтам, робячы цяжкую працу за мяжой (дзе не так шмат у беларусаў сяброў, як іншым часам гэта падаецца адсюль. На жаль, там нярэдка слухаюць толькі Расею). Сёння ён распавядае свету і нам праўду пра БНР. Яны вернуцца разам на родную зямлю. Ці не вернуцца ніколі.

Я веру ў першае. Таму выбіраю БНР. Я хачу жыць на сваёй зямлі. У сваёй краіне – Беларускай Народнай Рэспубліцы.

**Міхась БУЛАВАЦКІ, выкладчык, старшыня абласнога Таварыства Беларускай мовы**

*Н*аш чытач **Сяржук Аржанцаў** з Клімавічаў даслаў у рэдакцыю падрабязныя звесткі пра беларускіх дзеячоў, якія ўваходзілі ў першы ўрад (Народны Сакратарыят) Беларускай Народнай Рэспублікі. У нас няма магчымасці змясціць гэтую інфармацыю ў газэце, таму назавём толькі іх імёны.

**Алесь Бурбіс**, консул БНР у Маскве пры ўрадзе РСФСР. Памёр у 1922 г.

**Янка Серада**, народны сакратар гаспадаркі. У часе Другой сусветнай вайны выпушчаны з савецкага лягеру. Далейшы лёс невядомы.

**Язэп Варонка**, старшыня ўрада й народны сакатар міжнародных справаў. Памёр у 1952 г. у ЗША.

**Васіль Захарка**, дзяржаўны скарбнік БНР. Памёр у 1943 г. у Празе.

**Аркадзь Смоліч**, народны сакратар асветы. Растраляны бальшавікамі ў 1938 г.

**Пётра Крэчэўскі**, народны сакратар кантролю. Памёр у 1928 г. у Празе.

**Кастусь Езавітаў**, намеснік старшыні ўрада, народны сакратар ваенных справаў. Памёр у 1946 г. у савецкай турэмнай бальніцы.



**Антон Аўсянік**, сябра Народнага Сакратарыяту. Пераехаў у БССР з Польшчы. Пасля 1933 г. далейшы лёс невядомы.

**Лявон Заяц**, загадчык справаў урада (дзяржаўны кантралёр). Памёр у следчай турме НКВД у 1935 г

"Трэба адзначыць, – піша далей сп. Аржанцаў, – што ў першы ўрад БНР уваходзілі й іншыя людзі. Іхні лёс таксама скончыўся трагічна. Памёр на чужыне **Тамаш Грыб**, народны сакратар земляробства. У савецкіх турмах і лягерах былі забітыя **Яфім Бялевіч**, народны сакратар юстыцыі; **Пелагея Бадунова**, народны сакратар апекі... Будзьма памятаць гэтых людзей, сапраўдных патрыётаў, змагароў за незалежнасць Беларусі. Будзьма пераемнікамі іх ідэй і справаў. Жыве незалежная Беларусь!"

